# ВАЙНА І МІР
# СПРАВАЗДАЧА

## Праца асьпіранта сцэнарных курсаў Марціна Віктаравіча па выніках экспэдыцыі ў адселеную зону

Вёска Дачнае знаходзіцца ў адселенай зоне на паўднёвым усходзе краіны. Па сутнасьці гэта й ня вёска ніякая, а ўсяго дзьве жылыя хаты на розных канцах колішняга паселішча. У хатах гэтых жывуць два гаспадары, якія не схацелі адсяляцца.

У рэестрах адселеная зона называецца UNIFIN — паводле праграмы ААН для ліквідацыі наступстваў трэцяй сусьветнай вайны.

Уласна вайной мы яе называем умоўна. Тады, калі яна адбылася, яе называлі глябалізацыяй. Усё прыводзілася ў аднолькавы выгляд з умовай, што ўзор для ўніфікацыі будзе брацца найлепшы.

Але ў тыя часы было шмат інтарэсаў, пошукаў выгады, і зусім не найлепшыя атрымлівалі ўладу над гэтымі працэсамі. Таму дзесьці ўсё рабілася аднолькавым паводле найлепшых узораў, недзе

паводле сярэдніх, а дзесьці нават паводле найгоршых. Прычым найгоршыя былі найбольш актыўныя і агрэсіўныя. Яны нападалі на найлепшых і падпарадкоўвалі іх сваім найгоршым узорам. І калі такое падпарадкаваньне адбылося, тады й сталі называць гэта наступствамі трэцяй сусьветнай вайны, бо яны інакш і не выглядалі. А калі ёсьць наступствы вайны, значыць, іх трэба ліквідоўваць. Так і ўзьнікла праграма UNIFIN.

***

Гаспадары Кромлех і Глюкліх — адзіныя, хто застаўся зь вялікае арміі ліквідатараў, што некалі працавала ў адселенай зоне. Яны ня толькі жывуць тут і працуюць, але й жорстка варагуюць паміж сабой.

— А каб табе пяткі вывернула, каб ты! — крычыць Кромлех.

— А каб ты жыватом езьдзіў! — адказвае Глюкліх.

— А каб ты прайшоў навылет зямлі, каб ты! — крычыць Кромлех.

— А каб табе ў галаве мышы гнёзды вілі! — адказвае яму Глюкліх.

— А каб ты тое зьеў, што сказаў, каб ты! — крычыць Кромлех.

— А каб ты быць ня ведаў! — адказвае Глюкліх.

У абавязкі абодвух насельнікаў уваходзіць догляд старога кароўніка. Тым ня менш, яны ніколі нічога ня робяць разам, бо да глыбіні душы ня любяць адзін аднога. Адкуль гэтая нелюбоў? — спрабаваў высьветліць я.

— А хай ён ня лезе, — сказаў Кромлех.

— А хай ён ня лезе, — сказаў Глюкліх.

Вы спытаеце, як ліквідатары могуць працаваць без кантакту міжсобку? Аказваецца, на закінутым кароўніку ёсьць рэпрадуктар, які апавяшчае, што і каму рабіць. Пра гэта мне ўдалося даведацца, напрасіўшыся ў госьці да Кромлеха. Ён жыве ў невялікім драўляным будынку, які нагадвае шпакоўню.

Сьціплае памяшканьне зьдзівіла адсутнасьцю якіх-небудзь сьлядоў цывілізацыі. Адзінае, што нагадвала пра колішняе жыцьцё тут — гэта нашыўка UNIFIN на рукаве Кромлехавай кфуфайкі і абрыўкі колішніх ідэалягемаў у мове самога гаспадара.

— Мы адраджаем зямлю! — казаў Кромлех. — Мы — дзеці галяктыкі!

На пытаньне пра адносіны да Глюкліха (у яго адсутнасьць) рэакцыя Кромлеха была непрадказальнай:

— Гэта ж мой брат! Мы адзін без аднаго ніяк. Бо мы беларусы.

— А як жа вы жывяце, адзіныя на ўсю зону, — спытаўся я.

— Мы жывем, пакуль доўжыцца наша спрэчка, наша супрацьстаяньне, — быў адказ.

На пытаньне «Ці не хацелася вам пакінуць зону, як гэта зрабілі іншыя ліквідатары, і адправіцца ў шырокі сьвет?» Кромлех адказаў ляканічна:

— Лепей там, дзе нас няма, і пакуль нас там няма, там лепей.

Высьветлілася, што праграма UNIFIN мела на мэце ня толькі ліквідацыю наступстваў трэцяй

сусьветнай вайны, але і разьвіцьцё, па магчымасьці, новай цывілізацыі. Для чаго тут і пакінутыя былі незьлічоныя войскі ахвочых. Але за прамінулы час амаль усе любымі спосабамі паўцякалі ў шырокі сьвет. Засталіся толькі Кромлех і Глюкліх.

— Мы засталіся, — сказаў Кромлех, — бо гэта наша радзіма. Простыя словы, простыя рэчы.

***

Назаўтра пасьля ночаньне ў гасьцінным Кромлехавым жытле я разам з гаспадаром рушыў на агляд закінутага кароўніка з рэпрадуктарам са спадзевам сустрэць там і распытаць Глюкліха. А заадно паглядзець, як адбываецца «ліквідацыя наступстваў».

Адразу за домам Кромлеха мы спусьціліся ў лагчыну і скіраваліся бітай сьцяжынаю ў бок бярэзьніку. Вакол буяла расьліннасьць і, апроч сьцяжыны, нішто ня сьведчыла пра існаваньне тут чалавека.

За бярэзьнікам я і пабачыў кароўнік — невялікую будыніну на паўсотні галоў.

На пытаньне «Як гэты будынак не развальваецца, бо сьлядоў рамонту на ім не відаць?» адказ быў: «А чорта яму ня станецца».

Разьвітаўшыся з Кромлехам, я пайшоў да Глюкліха, які ўвіхаўся на падворку. На пытаньне «А што вы робіце?» ён сказаў:

— А што скажуць, тое і робім. То падсьцілку ў кароўніку мяняем. То абкошваем вакол, то сьмятану б’ем з малака...

Апошнія словы зьбілі мяне з тропу. Выходзіць, кароўнік быў не закінуты. Аднак усё аказалася ня так проста.

— Мы даглядаем ласёў, дакладней, ласіх, — сказаў Глюкліх, — тыя самыя каровы. Мы п'ем іх малако, запрагаем іх у вазок, ямо іх мяса і шыем абутак зь іхнай скуры. Мы калісьці нічога гэтага рабіць ня ўмелі. Але рэпрадуктар кіруе намі.

З далейшых роспытаў я дазнаўся, як працуе рэпрадуктар. Рэч у тым, што «кропка» або правадное радыё, таксама патрапіла пад глябалізацыю і натуральна існуе тут як частка ўсяго гэтага жыцьця, як паветра. І адтуль, з рэпрадуктара, ідуць указаньні кшталту ранішняй зарадкі. «Рукі на шырыню плеч» і ўсё такое. Пакуль я рабіў гэты запіс, рэпрадуктар пракерхаўся і загаварыў мужчынскім голасам: «Увага! Перадаем важнае ўрадавае паведамленьне. Грамадзяне і грамадзянкі! Вайна!».

Пасьля гэтых словаў Кромлех і Глюкліх кінуліся выграбаць з кароўніка ласіны гной, каб замяніць яго сьвежай саломай.

Я спытаўся ў іх: «Слухайце, голас з рэпрадуктара не казаў мяняць падсьцілку. Што вы робіце?».

— Не казаў? — зьдзівіўся Кромлех. — А што ж ён казаў?

Гэтыя людзі дзейнічалі на свой розум, і толькі падмацоўвалі свае рашэньні спасылкамі на голас з рэпрадуктара, які гучаў невядома адкуль, невядома чый і невядома навошта.

— Ведаеце, чалавек складаецца з сумневаў. — Растлумачыў Глюкліх. — І больш ні з чога. Усё астатняе — цела, розум, душа — ня мае значэньня. Толькі

згустак сумневаў — гэта і ёсьць чалавек. Калі ты не сумняваесься — ты або труп, або помнік, або робат.

***

Так я трапіў у хату Глюкліха. Звонку яна нагадвала човен, а сьцены ўсярэдзіне былі памаляваныя сінімі хвалямі.

— Ведаеце, я, колькі сябе памятаю, марыў пра мора. У маленстве ў мяне нават санкі былі марскія. Ну, так я іх называў. І відэлец таксама быў у мяне марскі. Але ў нас няма мора. Даўно ўжо няма. Гадоў тысячу. І я чамусьці застаўся тут. Але ў мяне няма адчуваньня, што мая мара ня зьдзейсьнілася. Вот. Калі залезьці на дах кароўніка, бывае такі час, што навакольныя лясы аж за далягляд адліваюць блакітам, я бачу мора...

— А Кромлех, — спытаўся я, — ці ён ня марыў пра мора? І ад гэтага ваш разлад?

— Ведаеце, Кромлех — горны чалавек. Ён марыць пра горы. І кажа, што нашы славутыя балоты — гэта горы, перавернутыя ўніз. Таму і ён тут. І яго ўсё задавальняе таксама. Хоць, па-мойму, балоты — ніякія ня горы, а якраз тое, што засталося ад колішняга мора.

Далей у часе апытаньня высьветлілася, што ў адселенай зоне прысутнічае яшчэ адна асоба. Прычым асоба без галавы.

— Вядомая гісторыя, — усьміхнуўся Глюкліх. — Януш Чартарыйскі застаўся ў зоне. Бо куды ж зьедзеш без галавы? Цябе проста ня возьмуць.

На мае роспыты былы ліквідатар распавёў, што Януш Чартарыйскі згубіў сваю галаву падчас асады

Пскова ў 16-м стагодзьдзі. Калі шляхта пайшла ў наступ, прыяцель Чартарыйскага Саламярэцкі ў запале бітвы зьнёс Янушу галаву. Пскова яны не ўзялі, а калі вярталіся дадому, Саламярэцкі ўзяў за сябе Янушаву жонку, у якую быў закаханы даўно. Януш ня змог дараваць такога падступства і шукае былога прыяцеля, каб адпомсьціць яму.

— А ён не памёр? Без галавы? — спытаўся я.

— Не-е, што вы! Пакуль ён ня знойдзе Саламярэцкага, ён не памрэ. А паколькі ён яго ня знойдзе ніколі... Ну дык вот.

У часе далейшага дазнаньня высьветлілася, што Чартарыйскі сапраўды ходзіць па мясцовасьці і махае мячом, зносячы ўсё на сваім шляху. Калі ён набліжаецца да сядзібаў Глюкліха і Кромлеха, яны залазяць пад падлогу, бо ён можа сячы сваім мячом толькі тое, што знаходзіцца на лініі гарызонту, але не вышэй і не ніжэй.

— Ці магчыма яго пабачыць? — спытаўся я.

— Ведаеце, гэта непрадказальна, — быў адказ.

Наступныя роспыты паказалі, што Чартарыйскі прыходзіць прыблізна раз на месяц, але цяпер ужо не было яго месяцы два. У мяне зьявіўся шанец і я пастараўся скарыстацца ім. Глюкліх ласкава згадзіўся цярпець мяне ў сваім паселішчы колькі спатрэбіцца.

***

Доўгім вечарам гасьцінны гаспадар распавядаў мне гісторыю адселенай зоны, якую ён памятаў на сваім веку.

Аказваецца, некалі тут была адмысловая вытворчасьць. Яе зладзілі ліквідатары, калі іх яшчэ заставалася шмат. Працаваў там і Глюкліх. Называлася вытворчасьць Робатацэх, бо выпускалі там робатаў. Прычым, лічылася, што робаты павінны быць з душамі. Таму за ўзор бралі славутых паэтаў. Лічылася, што гэта будуць новыя насельнікі зоны.

— У газэтах тады сьмяяліся з нас, што мы ажыўляем помнікі.

Адзін зь ліквідатараў, маёр, адразу сказаў, што робаты ня будуць жыць вечна, але яму не паверылі і ён нават абʼявіў байкот вечнасьці.

— Як гэта?

— Ведаеце, ён вырабіў сабе надмагільны помнік і доўгія гады трымаў яго ў сябе ў спальні. Ён глядзеў на яго і як бы сам пераконваўся ў канцовасьці існаваньня. Перакананасьць — вось што для яго было самым галоўным у жыцьці.

— Чаму?

— Ён жа быў камуніст і ў душы — глыбока савецкі чалавек.

Так ці інакш, але робаты зношваліся, бо нішто рукатворнае ня можа быць вечным, толькі — калі яно зьліваецца з прыродай. А бясконца мяняць ім дэталі не было сэнсу, дый ня стала каму, бо ліквідатары пастунова адправіліся ў шырокі сьвет.

— А што ж робаты рабілі?

— Як што? Езьдзілі па школах і выступалі зь вершамі. Гэта ж паэты.

***

Аднойчы падчас ранішняй кавы мы пачулі незвычайны гук, падобны да гуку ротарнай жаткі. Шум імкліва нарастаў.

— Ведаеце, гэта Чартарыйскі! — сказаў Глюкліх. — Хутчэй на дах!

Апынуўшыся на даху, мы пабачылі велізарнага дзяціну зь біцэпсамі, у кальчузе на голае цела. Ён набліжаўся, зносячы аграмадным двухручным мячом усё, што траплялася на шляху. Калі меч быў занесены над рогам нашае хаткі, Глюкліх раптам закрычаў жаночым голасам:

— Пане Чартарыйскі! Я заўсёды была верная вам! Памятаеце, як я вас праводзіла на асаду Пскова? Мы мілаваліся аж чатыры разы!

Рыцар спыніўся ў сваім руху. Выглядала, што ён пачуў крыкі Глюкліха. Але і Глюкліх апынуўся ў далікатным становішчы.

— Пане Чартарыйскі! — крыкнуў ён ізноў.

Рыцар схамянуўся.

— Не люблю сябе і ніколі не любіла. Толькі вас, — крычаў Глюкліх.

Рыцар устаў на калені.

— Вы пазбаўляеце яго несьмяротнасьці, — шапнуў я.

— Але ж нам трэба гэта зрабіць, — шапнуў Глюкліх, вачыма шукаючы паразуменьня.

— Навошта? — зьдзівіўся я.

— Навошта? — зьдзівіўся Глюкліх.

Я паспрабаваў растлумачыць Глюкліху, што тады б зьнікла жывая матывацыя для ўсіх. Бо мы ўсе жывем, пакуль нашы мёртвыя — як жывыя. Так

у сям'і, так і з цэлымі народамі. І гэта, насамрэч, вялікі здабытак, што такі Чартарыйскі ходзіць па навакольлі і будзіць нас. Інакш чаго б гэта вы мянялі падсьцілку ў кароўніку? Мы б усе проста ляжалі і нічога не рабілі. Нашы ворагі ня тыя, хто будзіць, а тыя, хто прысыпляе.

— Ведаеце, нам, пакуль ён стаіць на каленях, трэба хуценька пабегчы ў сутарэньні, бо ён устане і можа зьнесьці хатку, — сказаў Глюкліх, быццам і не пачуўшы маіх словаў.

Але рыцар тым часам падняўся з калень і па грудзёх яго было бачна, што ён рыдае. Ён рыдаў, бо адчуў нашу размову. Невядома як і чым, але адчуў. І, відавочна, стала яму бядотна. І тады ён павярнуўся да нас і сказаў шыйнай трубкай, проста прартрубіў, нібы слон:

— Вы непапраўны народ! Я, ваш далёкі продак, не магу вас абудзіць. Мы змагаліся за гэтую зямлю, думаючы пра вас. Але вы аказаліся гаўном.

І сышоў.

***

Калі час маёй экспэдыцыі падыходзіў да канца, я вырашыў паспрабаваць замірыць двух непрымірымых гаспадароў. На тое прыдалася ўзятая з сабой пляшка. Спачатку мы выпілі з Кромлехам, пасьля я пайшоў да Глюкліха і, выпіўшы зь ім, вярнуўся да Кромлеха. Цяпер угаворваць яго адправіцца на госьці да брата доўга не прыйшлося.

Гаспадары гнеўна пазіралі адзін на аднаго, але пасьля каторай чаркі сьцішыліся. Яны як бы аглядалі сваё жыцьцё. Быццам гэта і ня іх жыцьцё,

а — від збоку. Раптам вусны іх раскрыліся і я пачуў дзівосны сьпеў. Загучала старадаўняя, народная, відаць, песьня:

Ёсьць надзея у мяне,
у мяне,
у мяне
Што аднойчы ўсё міне,
ўсё міне,
ўсё міне.
Мы палічым айн-цвай-драй,
айн-цвай-драй,
айн-цвай-драй.
І пасядзем у трамвай,
у трамвай,
у трамвай.
Паляцім за далягляд,
далягляд,
далягляд.
У радзімы фатэрлянд,
фатэрлянд,
фатэрлянд.

Галасы іх узвышаліся, пакуль не загучалі над усёй прасторай, аж да неба, якое ўначы рассыпалася мільярдамі зорак. І чамусьці я засьпяваў разам зь імі.

Назаўтра я разьвітаўся з Кромлехам і Глюкліхам, пакінуў Дачнае і самалётам прыбыў у сталіцу.

Асьпірант сцэнарных курсаў
Марцін Віктаровіч

# ЖЭНЕЎЕЎ

## Апавяданьне

— Раптам спыніцца сэрца, надыдзе сьмерць, пахаваньне, а галава, прынамсі, гатовая для ўсяго гэтага, ня трэба стрыгчы, учэсваць, няма лішняга клопату людзям, — думаў сабе Жэнеўеў, гледзячы ў люстэрка цырульні.

Побач зь люстэркам у вялізным акне сьнег густа падаў на сосны Батанічнага саду.

Думкі пра гатовасьць да сьмерці прыходзілі Жэнеўеву кожнага разу, калі клаўся спаць, мыўся ў душы ці падстрыгаў пазногці або пісаў пра тое ў сваім фэйсбуку. Засну — і адразу гатовы, надзеў урачысты строй — і хоць ты кладзі пад цюль. Пагалены, у начышчаных да бляску чаравіках...

Жэнеўевам яго назвалі бацькі, тата і мама. Яны любілі францускае кіно і чакалі дзяўчынку. У астатнім ён быў такі самы, як усе. Між беларусаў шмат людзей, пра якіх нічога асаблівага ня скажаш, нават таго, што яны беларусы.

З фэйсбуку пра Жэнеўева і даведаліся Какашыдзэ і Гагаладзэ. Ягоная гатовасьць да ўласнае сьмерці прыцягнула іхную ўвагу.

Увогуле такая гатовасьць была ўласьцівая ўсім беларусам. Жэнеўеў вылучаўся тым, што казаў пра гэта ўголас і пры кожнай нагодзе. За сьвяточным сталом ці ў опэрным тэатры, за кампутарам на працы ці ў прыбіральні — ён уяўляў, што будзе, калі раптам спыніцца сэрца. І нязьменна радаваўся, што не наробіць клопату іншым.

Кажучы зусім дакладна, гаворка ня йшла пра сьмерць, а толькі пра рытуал пахаваньня. Бо сьмерць — хто яе ведае, што яна такое, а вось уся гэтая мітусьня вакол памерлага — гэта кожны ведае, асабліва на пятым дзясятку, як Жэнеўеў.

Какашыдзэ і Гагаладзэ былі агентамі Сораса, а Сорас — багаты мэцэнат — скіроўваў сваю дабрачыннасьць на разьвіцьцё і адукацыю народаў, каб ім расхочвалася паміраць. Якраз зь беларусамі гэта зрабіць было найцяжэй. Бо паміраць яны быццам бы й не хацелі, але ўвесь час думалі пра гэта. Адсюль атрымаўся канфлікт інтарэсаў, і тутэйшыя ўлады, якія таксама думалі пра паміраньне, выгналі Сораса з краіны. Цяпер ён раз-пораз інкогніта пасылаў у Беларусь Какашыдзэ і Гагаладзэ.

Чаму ён выбраў менавіта іх? Двух лысаватых і паўнаватых мужчын, з выгляду рыхтык італьянскіх мафіёзі. Можа быць, адчуваў, што беларускія праваахоўнікі не павераць, што клясычныя шпіёны могуць быць шпіёнамі насамрэч? Ці таму, што ўсё ў Беларусі было з падвойным дном? Паміраць рыхтуюцца, але не зьбіраюцца. Кажуць, што родная мова ў іх беларуская, а гавораць па-расейску. Нездарма ж найвялікшы літаратурны твор у іх называецца «Дзьве душы» — нібы сапраўдная іхная

канстытуцыя пры тым, што і звыклая Канстытуцыя ў іх, нібыта, ёсьць.

Грузіны і Сорас неяк не разумелі гэтай заклапочанасьці разьвітальным рытуалам і прымалі яе за клопат пра ўласную сьмерць. А Жэнеўеў не разумеў, чаму ягонае жаданьне пазбавіць іншых ад клопату пра сябе ў часе пахавальнага рытуалу нехта трактуе як клопат пра сьмерць.

— Мы ведаем пра тваю заклапочанасьць уласнай сьмерцю, але як зрабіць, каб цябе болей клапаціла ўласнае жыцьцё? — пыталіся ў Жэнеўева Какашыдзэ і Гагаладзэ.

— Як гэта? — зьдзівіўся Жэнеўеў.

Яны сустрэліся ў гарадзкім парку і шпацыравалі да рачное дугі пад лёгкім сьняжком. Зьмерзлыя галубы куксіліся на бэтонных рачных парапетах.

— Дык ты ж думаеш пра сваю сьмерць ужо шмат гадоў, але не паміраеш, праўда?

— Ну, не паміраю, — згадзіўся Жэнеўеў. — А можа я таму й не паміраю, што ўвесь час думаю пра сьмерць. Ябаць-калаціць!

Шпацыруючы, яны прамінулі нейкі важны помнік, спусьціліся ў лагчыну і грузіны сказалі:

— А калі б ты ўвесь час думаў пра жыцьцё? І ўся твая нацыя думала б пра жыцьцё. Яна б жыла, а не памірала, так? Глядзі, — разгарнулі яны сьвежы нумар «Нашае Нівы», — тут вельмі горасна пішуць, што беларуская нацыя памірае, што ад яе амаль нічога ўжо не засталося.

— Гэта чыстай вады развод, — сказаў Жэнеўеў. — Мы проста засьцерагаемся, а так бы не засьцерагаліся. Думаць пра сьмерць у нас не адымеш, таму

трэба сыходзіць з гэтага. Мы й жывем толькі таму, што думаем, як памром.

Вялікі дыск сонца адлюстроўваўся ў Сьвіслачы, і цень каменнай альтанкі расьцягнуўся па засьнежаным лёдзе аж да супрацьлеглага берагу ракі. Вечарэла. Нашы героі стаялі каля парапэту і пазіралі кожны перад сабой. А над імі навісала высокая зорка Дому пад шпілем і аграмадністым целам грувасьціўся гмах Генштабу.

— Харашо, — чамусьці па-расейску сказалі Какашыдзэ і Гагаладзэ. — Вы засьцерагаецеся ад жыцьця, так ты сказаў? І гэта ваш сродак кантрацэпцыі. Беларусы пражываюць жыцьцё ў прэзэрватыве, так прынята, так закладзена. Яны — засьцерагаюцца. У гэтым прычына, што яны ніяк ня могуць нарадзіцца. Але калісьці ж гэта пачалося, гэтае думаньне пра сьмерць? Нехта ж надзеў на вас гэты чапок. Ну ня сёньня, ня ўчора, а калісьці.

Доўгая паўза павісла паміж домам Освальда — забойцы Кенэдзі і домікам першага зьезду КПСС.

— Ну і што, — сказаў Жэнеўеў. — Мы ж ня хіпі, каб не засьцерагацца.

— Твая радзіма тут? — спыталіся Какашыдзэ і Гагаладзэ.

— Тут, — адказаў Жэнеўеў. — Хоць папраўдзе карэнных жыхароў у Менску няма, максымум чатыры пакаленьні…

— Чатыры пакаленьні — гэта нішто, — сказалі Какашыдзэ і Гагаладзэ, — бо ўсе жывыя. Калі ўсе жывыя ці тэарэтычна жывыя — гэта, лічы, адно пакаленьне — ты, мама, дзед, прадзед. І тут усё пачынаецца.

— Тут усе, калі разабрацца, аднекуль прыехалі. Я нарадзіўся на поўдні, у Мазыры.

Грузіны задумаліся, пасьля зазірнулі ў свае гаджэты.

Мазыр — брутальны горад. Страшны. Шмат забойстваў на бытавой глебе. Адарваныя людзі, урвісы, бандыты. Крымінал не спыняецца... Горад на гарах... Усе помнікі архітэктуры зруйнаваныя. Разам з гарамі. Сярод першых згадак — насаджэньне на кол... Гэта ж трэба было патрапіць калом у заднюю дзюрку! Каб чалавек расслабляўся і адначасова ўваходзіў у гэты боль глыбей, глыбей, глыбей...

— Трэба ехаць на тваю радзіму, — сказалі Какашыдзэ і Гагаладзэ. — У твой страшны горад Мазыр. Усё пачынаецца адтуль і думкі пра паміраньне таксама.

— Чаму б не. Але я так думаў заўсёды, колькі сябе помню, — сказаў Жэнеўеў.

— А жыцьцё — такое прыўкраснае, — уздыхнулі Какашыдзэ і Гагаладзэ.

У грузінаў была машына, акурат каля Доміка зьезду, і неўзабаве яны выправіліся ў дарогу.

— Ну да, у вас там горы, мора, мандарыны... — падкалоў грузінаў Жэнеўеў, калі яны селі ў машыну,

— Ты пра гэта шкадуеш? — зь недаверам спыталі грузіны. — Скажы, чаго б табе было шкада ў гэтым жыцьці, з чым не хацелася б разьвітацца?

Жэнеўеў задумаўся, і ўсьмешка заблукала на ягоным твары. Пасьля стаў казаць нешта, быццам завучанае яшчэ ў дзіцячым садку.

— Шкада... што не спазнаў усяго на сьвеце... Ня быў нідзе толкам. Што ня зьеў усяго... Што...

Ён запнуўся і пачаў распавядаць сваю гісторыю:

— Вось я вам раскажу гісторыю пра Капцілу. Калі ў Капцілы прапаў інтарэс да жыцьця, я акурат набыў сабе сабачку. Масьціна. Капціла капціў, а я быў шчасьлівы са свайго барбоса, проста парадніўся зь ім. У паўгода ён ужо важыў 40 кіляў і быўневерагодна прыгожы. Сапраўдны рымлянін. Іх вывелі для гладыятарскіх баёў, і яны хадзілі біцца разам са львамі і спартакамі. Я ганарыўся такім сябрам. А ён быў спакойны і як бы самы блізкі мне чалавек. Толькі бяда ў тым, што жыць майму сябру было ўсяго дзесяць гадоў. А Капцілу невядома колькі. Гэта мяне мучыла найболей. Капцілу пасавалі крылатыя словы Камю «Мы так доўга жывем», а барбосу — крылатыя словы Пятровіча «Людзі доўга не жывуць», хоць ён і ня быў людзем. Ну вось. Шчасьце, я гэта разумеў ад пачатку, скончыцца даволі хутка, а пакута проста ня мела канца. Так і адбылося. Дзесяць гадоў праляцелі яе дзень. Урэшце барбоса я пахаваў на Ўручанскіх могілках, ёсьць у нас такія, для кошак і сабак. І для марскіх сьвінак. Масьціна памёр, а Капціла капціць і сёньня, усімі незадаволены, бяз зроку і памяці, з дакорам, што ўсе толькі й чакаюць ягонай сьмерці, нікому не карысны й не патрэбны. Страчваеш таго, хто табе дарагі, а застаесься з тым, хто вымотвае душу. Такое ў нас жыцьцё.

— Ты набыў шчанюка і пры гэтым думаў пра тое, што жыць яму ўсяго 10 гадоў? — грузіны былі ўражаныя. — Табе гэта не здаецца ненармальным?

— Дык гэта ж праўда. Дзіўным мне здаецца тое, што мы вось так проста едзем у Мазыр. Але хай сабе. Я акурат падстрыгся...

Яны выехалі на кальцавую і маўчалі да Асіповіч. Жэнеўеў заглыбіўся ў сябе. Гагаладзэ круціў баранку, а Какашыдзэ ўглядаўся ў гаджэт.

— Нічога добрага нам ня сьвеціць, — абвясьціў ён і пачаў чытаць: Асіповічы славяцца найбуйнейшай за ўсю вайну дывэрсіяй на чыгунцы. Помнік арганізатару дывэрсіі Крыловічу. Палегла людзей. Сам Хведар Крыловіч нарадзіўся у 1916-м, памёр у 1959-м. Малавата пажыў. Яго ўнучка змагаецца з падатковымі праверкамі — у яе свая пахавальная кантора ў Асіповічах. Таня завуць. Так пішуць у газэтах.

— Я ў 1959-м нарадзіўся, — сказаў Жэнеўеў. — Герой вайны закончыў свой шлях на 43-м годзе. У прынцыпе, ня так і мала, калі б не такі важны герой з помнікам. Такія сыходзяць у 80–90. Калі ніхто ім зь нейкіх прычын не дапаможа...

Дарога то круціла кругамі, то спускалася ў лагчыну. Праехалі недзе збоку Бабруйск, ізноў недзе збоку паказвала на Парычы, у гэтым месцы наўзьдзіў не было сьнегу.

— Тут заўсёды цяплей, — сказаў Жэнеўеў. — Я даўно гэта заўважыў. Калі я быў малы, мяне часьцяком вазілі да бабулі ў Мазыр. На лета, а бывала і на зіму. Узімку мы з братам хадзілі на Прыпяць з вудамі і пешняю. Падлёдны лоў называецца. Ідзеш на рыбу, а сам думаеш, а што калі ўжо ня вернесься, бо сам трапіш пад гэты лёд.

— Можа быць, уся прычына ў падлёдным лове?

— А што там можа быць за прычына? Круціш лунку і сядзіш над ёй з вудаю. Для многіх у нас за шчасьце нацягаць джгіроў. Проста азарэньне нейкае. Людзі гатовыя сядзець цэлы дзень, нават калі не чапае.

— Страшна, — сказалі італьянскія мафіёзі.

Праехалі Азарычы. Какашыдзэ камэнтаваў з гаджэта. Лягер сьмерці, дзе хлеб у натоўп вязьняў кідалі проста з грузавіка (але ж кідалі!), часам каменны бохан трапляў каму-небудзь у галаву і той падаў замертва...

«Смерць, толькі сьмерць, — думалі Какашыдзэ і Гагаладзэ пра гэты край. — І нічога пра жыцьцё, пра харошы грузінскі хор».

Калінкавічы... На старым мосьце праз Прыпяць гарою вырастаў Мазыр. Жэнеўеў працягваў успамінаць.

— Я малы ня мог вымавіць «р» і казаў на раку «Піпец». І мяне дражнілі, але ня дзеці. У нас была суседка Ганна Лагапедаўна Міцура. Яна мяне за гэта называла «Піпец». А, прывет, Піпец. Як справы, Піпец? Ты ўжо хадзіў на ябалку, Піпец? Толькі пазьней я даведаўся, што піпец — гэта значыць, гамон.

Грузіны засьмяяліся і потым, як гэта заўсёды бывае ў грузін, ці праз сьмех, ці празь сьлёзы, пачалі сьпяваць. Машына ўзьнёсла ляцела па старым мосьце, і іхнае «Дэлі-дэлі-дэласа» неяк упляталася ў вуркатаньне рухавіка.

Жэнеўеў стаў падпяваць, але іншае, тое, што ведаў. А неўзабаве і грузіны падхапілі Жэнеўевавы словы.

Доўга я хадзіў паміж скал,
Я магілку мілай шукаў,
Але нялёгка яе знайсьці,
Ой, нялёгка,
Мілая галубка мая.

Прыпяць была замерзлая ці не да дна. Яны пакінулі машыну на беразе, сышлі на раку і адчулі магутны вецер. Была ўжо ноч. Гарысты горад навісаў над імі чорнай сьцяной.

— Эй, знаеш, — сказалі Какашыдзэ і Гагаладзэ. — Мы тут не ўтрымаемся на паверхні.

— Нармальна, — крыкнуў Жэнеўеў. — Мы так жывем. Якраз гэта я і запомніў зь дзяцінства. Зіма, мароз, сьнег, вецер, цёмна, бо яшчэ толькі восем раніцы. І мы з Воўкам, братам, ідзем на рыбалку. Мы надзелі цёплыя кажушкі, узялі ў рукі пешні, вуды і сумкі. Мы жывем у бабулі, недалёка, за старым драўляным рынкам, дзе часта здымаюць фільмы пра вайну. Цяпер рынак зачынены, бо панядзелак. Пераходзім Савецкую вуліцу, абмінаем драўляную двухпавярховую школу (я думаю — як бы хацеў тут вучыцца) і выходзім у парк. Гэта прыбярэжны парк, дзе ўлетку апаляюцца купальнікі, а на эстрадзе чытаюць лекцыі пра палавое выхаваньне...

Прыпяць — аграмадная ледзяная гладзь, цёмная і крыху пагрозьлівая, быццам адлюстроўвала такое самае неба зь неабсяжнымі хмарамі, што ляцелі на ўсёй хуткасьці, нібы паравозы. І ноч.

Калі яны дайшлі да сярэдзіны ракі, вецер падзьмуў з усяе моцы. Грузіны хуталіся ў свае чорныя палітоны, а Жэнеўеў у пухавіку адчуваў задаволенасьць сваёй перавагай над імі. Ён быў тутэйшы.

— Экстрэмальныя ўмовы, — крычалі Какашыдзэ і Гагаладзэ.

— Калі мы з Воўкам выходзілі на сярэдзіну ракі, — працягваў крыкам свае ўспаміны Жэнеўеў, — вецер быў такі моцны, што зьбіваў нас з

ног і гнаў па лядовай паверхні, нібы палае лісьце. Мы рагаталі і з усяе моцы спрабавалі ўзьняцца на руках: калі пашанцуе, вятрыска падхопліваў цябе і можна было крыху праляцець над ракой, пакуль ня бразьнесься аб лёд і віхура прыб'е цябе да намеценай гурбы.

Гэтым разам сьнегападу даўно не было і гурбы ператварыліся ў высокія, да калена й вышэй наледзі.

Паверхня ракі была настолькі гладкая, а вецер настолькі парывісты, што ён нібы паслухаўся словаў Жэнеўева і падхапіў нашых герояў у паветра. Яны проста ляцелі. Грузіны засьпявалі: «Дэлі-дэлі, дэласа...» Грузіны заўсёды сьпяваюць, калі незразумелая бяда. А Жэнеўеў проста радаваўся жыцьцю і ляцеў у сваім пухавіку кудысьці ў невядомасьць...

Калі ён апускаўся ніжэй, дык бачыў у небе лятучых грузін, падобных на чорныя дэльтапляны ці на кажаноў, і здавалася, што іх ня два, а болей, дзясяткі і сотні, усё неба запаланілі лятучыя грузіны.

Барбастэла барбастэла — круцілася ў галаве ў Жэнеўева, і гэта былі апошнія словы перад тым, як парыў ветру рэзка спыніўся і ледзяная купіна — тая, што ўзвышалася на беразе ракі — рэзка паляцела яму насустрач.

Ад удару Жэнеўеў страціў прытомнасьць.

Рыбы леглі на дно. На Прыпяці віхура. І яны, ляшчы, шчупакі, плоткі, акуні, краснапёркі і таўсьцілы адчувалі еднасьць перад вялікай бядой. Яны не варушыліся, іх плаўнікі і шчэлепы замёрлі ці то ад страху ці то скаваныя лёдам у прамерзлай да дна рацэ.

Барбастэла барбастэла... — пачуў Жэнеўеў і зразумеў, што ачынаецца. Ён ляжаў пасярод аграмаднай ракі, а над ім гуляла стыхія і чорнай сьцяной навісаў страшны горад ягонага дзяцінства. На чорных гарадзкіх узгорках узвышаліся ці то будынкі ці то калы з пасаджанымі на іх казакамі, Міхненкам ці нават самім Налівайкам.

Праблісковыя маячкі міліцэйскай машыны, што пранеслася па беразе, канчаткова вярнулі Жэнеўеву прытомнасьць.

Грузіны ляжалі побач. Крыху прыціхлы вецер варушыў іхныя целы з вырачанымі, як у рыб, вачыма і напханымі сьнегам ратамі.

Жэнеўеў зразумеў, што ня ўстане, занадта моцны быў удар. Думка пра сьмерць хутка зьмянілася думкай пра паміраньне. Ён уявіў сабе сваё бруднае, скамечанае, скрываўленае аблічча і адчуў неверагодную палёгку. Быццам прасьвятлела ўсярэдзіне. Рэч у тым, што цяпер гэта яго зусім не турбавала! Ні думкі пра паміраньне, ні думкі пра свой выгляд, ні думкі пра лішні клопат для кагосьці, хто мусіць складаць яго ў труну.

Значыць, недарэмна загінулі грузіны, — вось адзіная думка, якая прыемна склалася ў галаве. Усё астатняе выклікала ў Жэнеўева абыякавасьць. І ў гэтым было сапраўднае вызваленьне.

Калі вецер зусім сьціх, здавалася, цэлае сонца ўстала над горадам дзяцінства, не такім ужо і страшным ды брутальным.

У нашых краях не бываюць брутальнымі сонечныя гарады.

# Д’ЯБАЛ
# ЗАПРЭЖАНЫ Ў ПЛУГ

Містычны трылер
з жыцьця праскіх големаў

— Я бясконцая, — сказала лесьвіца.

Яна хавала свае каменныя прыступкі ад начных ліхтароў на стромым схіле, якія аддзяляў Фаліманку ад Легеровай. Дзьве амаль нябачныя ў цемры постаці спрабавалі падняцца па лесьвіцы ўгару. Але яе шурпатыя прыступкі, нібы на эскалятары, марудна рухаліся ўніз. І калі постаці рабілі крок, яны заставаліся на тым самым месцы.

— Ім трэба паскорыць рух, тады яны пачнуць падымацца, — гулка прамовіў мост, які звысака пазіраў на падарожнікаў.

— Няўжо ты думаеш, што яна не паскорыць свой рух разам зь імі, — усьміхнуўся куст вінаградніку, які даўно перарос свой век і ператварыўся ў корч. — Яна ж бясконцая...

— Яна проста як трэнажорка! — зарагатаў мост.

— Ніякая ты не бясконцая, — азваўся асфальт, якім лесьвіца завяршалася ўверсе. — Удаеш зь сябе невядома што. Бясконцая, бясконцая! Каб адчуць бясконцасьць, ім якраз і трэба спыніцца. Гэта значыць, скончыцца. Каб аж невыносна стала ад страты ўсіх сэнсаў. Тады некаторыя гатовыя жывымі лезьці ў зямлю.

— Нават праз асфальт? — падвысіла голас лесьвіца, якую спакваля адпускала крыўда за «невядома што».

Падарожнікі зрабілі яшчэ адзін крок, быццам не разумеючы марнасьці свайго ўзыходжаньня. У іхным руху неверагодная маруднасьць спалучалася з такой самай упартасьцю.

— Бясконцы толькі Госпад наш Бог, — прапяяў тэнарам залаты крыж на тэракотавай бажніцы зьлева. — Але гэта пастулят і толькі ўсяго. Дзеці заўсёды пытаюцца: хто нарадзіў Бога, адкуль ён узяўся? І што ты ім адкажаш? Расповед пра бясконцасьць іх не задавальняе.

— А хто яго, дарэчы, нарадзіў? — спытаўся аброненны кімсьці бясколерны гузік, што тырчаў зь пяску. — Адказы кшталту «вечнасьць» і «быў заўсёды», а таксама «ня ведаю» і «гэта не карэктнае пытаньне» не прапаноўваць.

— Найлепшы адказ, які я чуў: мяне тады яшчэ не было. Кропка, — сказаў Музэй чэскай паліцыі. — З такім алібі не паспрачаецца ні малы, ні дарослы.

— Але гэта закамуфляванае «я ня ведаю», — настойваў гузік.

Тым часам постаці працягвалі перастаўляць ногі на верхнюю прыступку, якая рабілася ніжняй. Магчыма, яны ведалі, хто нарадзіў Бога? Бо для іх бясконцаю была іхная далёкая краіна. Там таксама спрачаліся пра тое, калі яна зьявілася, але таямніцы нараджэньня не было. Толькі ж падарожнікі ў размову не ўступалі.

— Я вам распавяду, як было насамрэч, — сказаў Месяц, які ўбачыў падарожнікаў, вызірнуўшы з-за хмары. — Бога ніхто не нараджаў, яго прыдумалі. Спачатку было слова, а ў слова быў аўтар. Імя ягонае згубілася ў гісторыі. І Біблія спачатку была проста

звычайнай казкай. А ў казках на тое, што нешта там без канца і бяз краю ніхто не зьвяртае ўвагі, прымаюць як дадзенасьць. Іншая рэч, калі Біблія стала ператварацца ў рэлігію, калі ў Бога сказалі верыць, тады і ўзьнікла гэтая праблема — каб паверыць у бясконцасьць, трэба яе ўявіць. А яна проста чалавечымі мазгамі не ўяўляецца. І тады Богу ў помач зьявіўся Хрыстос. Калі б Хрыстос не памёр, немагчыма было б цалкам зразумець і прыняць Бога. Сакрум рэлігіі трымаецца на гэтай вось напалову ўяўнай і напалову зразумелай (а на другую палову няўяўнай і незразумелай) бясконцасьці. Але не забывайце пра казку, — яшчэ пасьпеў сказаць Месяц перад тым, як яго зноў затуліла хмара.

— Месяц атэіст! — сказала лесьвіца.

— Атэіст гучыць як ананіст, — рагатнуў мост.

— Ён не атэіст, — сказаў крыж на бажніцы. — Вялікая аблуда змушаць кагосьці да веры, бо вера ёсьць у базавай камплектацыі чалавека. Як нага ці страўнік ці спачуваньне, напрыклад. Калі веры няма, значыць, ты хворы. Таму зь веры нельга рабіць дыскусіі. І ў рэлігіі самае важнае зусім ня вера (яна і так ёсьць), а рытуал, паралельная рэальнасьць.

— Цалкам згодны, — ізноў вынырнуў з-за хмары Месяц. — Сьвятары даказваюць бясконцасьць то рамкамі чалавечага розуму, то параўноўваюць яе, то бок, Бога з геамэтрычнай простай лініяй, што ня мае канца. Тым самым вяртаюць нас да таго, каб мы ўспрымалі Біблію як казку, але пры гэтым грашаць, бо тады Бог з рабочага інструмэнта ператвараецца ў іхных руках ва ўмоўнасьць.

— Але што сказаць, адкуль ён узяўся, хто яго прыдумаў? — настойваў гузік.

— Казкі бываюць аўтарскія і народныя, — сказаў Месяц. — Калі аўтарства невядомае, значыць, Бога прыдумаў народ. Звычайны фальклёр.

— Дай ім падняцца, — загадаў лесьвіцы асфальт. — Хай ідуць куды ім трэба.

Лесьвіца сапраўды паслухмяна спынілася, і дзьве постаці пачалі павольнае ўзыходжаньне.

Яны былі ледзь бачныя ў цемрыве ночы. Нават, можна сказаць, зусім нябачныя, і невядома з чаго можна было здагадацца, што яны ёсьць і што нешта там адбываецца.

Між тым, навокал іх чым далей, тым болей усё рагатала, шыкала і кпіла зь іх, кожная жаба, кожны парастак, кожная расколіна ў бэтоне. Але яны гэтага ня чулі. Ні падчас узыходжаньня, ні калі выйшлі нарэшце ўверсе на дол.

Шум, рогат і кпіны, якія з усіх бакоў абрынуліся на падарожнікаў, паступова сьціхалі, бо новыя экстэр'еры, у якіх ім даводзілася ісьці, ня бачылі іхнага канфузу на лесьвіцы і не маглі пра яго ведаць.

На бязьлюднай начной вуліцы іх сустракалі грамады велічных будынкаў, якія рабілі выгляд, што паснулі разам са сваімі насельнікамі. Але насамрэч яны ня спалі і ўсё, што маглі сабе дазволіць — разглядаць нашых падарожнікаў і разважаць пра іх.

«Што зьвязвае міжсобку гэтых мужчын, старэйшага і маладзейшага? — думаў першы дом на іхным шляху. — Яны так настойліва крочаць наперад і разам адчуваецца, што ня ведаюць, куды ідуць. У іх

няма мэты, і адзінае, што пра іх можна сказаць — што яны амаль аднолькавыя і што яны разам».

Дзіўная рэч. Яшчэ напраўду можна было разгледзець, што гэтыя двое мужчыны і што яны рознага ўзросту, але з кожным іхным крокам гэтыя адметнасьці расплываліся і рабіліся ўсё менш выразнымі. Тым часам постаці іхныя павялічваліся ў памеры.

«Магчыма, іх зьвязвае любоў, а магчыма, нянавісьць, — разважала вакно, у якім адбіліся іхныя цені. — Хоць у кожнай любові ёсьць кропелька нянавісьці і наадварот».

Як і ў кожнай асалодзе ёсьць кропелька болю і таксама наадварот.

«Выглядае, што яны вяртаюцца пасьля нейкай важнай агульнай справы», — заўважыў сабе дарожны знак.

«Ці толькі зьбіраюцца нешта замуціць разам», — зьвягнуў начны трамвай.

«Яны занадта спакойныя, каб нешта задумляць, і занадта мэтанакіраваныя для тых, хто ўсё завяршыў, — далучыў свой голас лёгкі павеў ветру. — Яны не ў пачатку і не ў канцы, яны даўно робяць тое, што робяць. Але цяпер зь імі нарэшце адбылося неверагоднае — яны паразумеліся!»

«Яны паразумеліся, » — сам сабе ўсьміхнуўся самотны сабака, які прабягаў міма.

«Яны паразумеліся? — у шмат галасоў недаверліва грымнула зграя варон у небе. — Як жа! Як жа! Як жа! Як жа! (4 разы)».

Насамрэч ніколі ня скажаш, ці ёсьць паразуменьне паміж людзьмі, толькі таму, што яны ідуць

разам. Адзіны выпадак, калі можна дапусьціць, што яно ёсьць — калі абое плачуць. Але нашыя постаці ня плакалі.

«У мяне адчуваньне, што яны ідуць у розныя бакі», — падумаў самалёт, які пралятаў над горадам, ідучы на пасадку.

«Хутчэй яны ідуць у адным кірунку рознымі бакамі», — заўважыў сабе самалёт, які набіраў вышыню.

Сапраўды, адна постаць цяпер ішла перад другою задам наперад.

Паступова яны спусьціліся ў гарадзкую каменную лагчыну.

На вузкай вулачцы, асьветленай з двух бакоў агнямі кабарэ, ад падарожнікаў літаральна адскочылі два мурыны-заклікалы. Рэч у тым, што ў часе руху, вандроўнікі павялічыліся ў памерах, і калі праходзілі міма зазывалаў, стала бачна, што яны ўжо маюць па два росты звычайнага чалавека. Апроч таго, яны пачалі лёгка сьвяціцца ад зыркіх агнёў рэклямы.

Ачомаўшыся, першы загаварыў Бабаджайд:

— Ты бачыў? Ты бачыў гэтых... цыркачоў?

— Думаеш, яны так зарабляюць? — адгукнуўся Ўзома. — Яны такія страшныя! Хто да іх захоча наблізіцца? Бог іх пакараў.

— Яны самі хочуць зрабіць выклік Богу.

— Бог іх абавязкова пакарае за гэта, — вельмі сур’ёзна сказаў Узома.

Пачаў накрапваць дождж, і зазывалы раскрылі парасоны. Грыбаты Ўзома глядзеў у сьпіну постацям вырачанымі вачыма. Было відаць, што ён

напалоханы ня жартам. Бабаджайд стараўся не выдаваць свайго страху.

— Прапускаеце кліентаў, — выскачыла з кабарэ белавалосая распарадчыца Сыльвія і, угледзеўшыся ў дзьве гліняныя сьпіны, якія аддаляліся па вуліцы, пачала мяняцца з твару...

Бабаджайд і Ўзома гучна зарагаталі.

— Яны занадта высокія, каб быць нашымі, — сказаў Бабаджайд, — кліентамі.

Але дзьве постаці працягвалі свой рух па спусьцелай Празе, з вуліц і плошчаў якой дождж прагнаў заўсёднікаў начнога жыцьця. На Мелантрыхавай яны рабіліся шэрымі. На Лілёвай іх абрысы фарбаваліся ў лілёвы колер, пры тым яны ставалі ўсё больш неакрэсьленымі праз залеву і тое, што памер постацяў увесь час павялічваўся, а таму больш недалужнымі рабіліся іхныя рухі. Відавочна, калі б ім уздумалася ўзысьці на Злату вулічку, каб самім афарбавацца ў золата, у іх не хапіла б ні сіл, ні спрыту. Ня дзіва, што ў апошні момант яны павярнулі направа.

Тут, ня гледзячы на дождж, яшчэ віравала жыцьцё. Адплывалі ў сваё падарожжа і прыплывалі да пірсу джаз-боты, гучала шмат рознай жывой музыкі. На адным з караблікаў, які вяртаўся з прамэнаду, на палубе стаяў, абапершыся аб парэнчы Дубавец. Ён курыў і адначасова паказваў Патапенку старую Прагу. Раптам ён угледзеўся ў абрысы будынка, але не падаў выгляду, што зьдзіўлены:

— Глядзі, бачыш галяграмы на беразе?

— Бачу... Афігець! — шчыра сказаў Патапенка, які за дзьве гадзіны іхнага шпацыру зь нязьменным

уздымам паўтарыў гэтае слова можа соты раз, настолькі быў уражаны горадам.

— Іх постаці дасягаюць увышыню трэцяга паверху. Акурат такім зрабіў свайго голема Бецалель. Але тое, што ты бачыш, — фальшыўка, камэрцыйны праект, бо праўдзівых големаў ня можа быць два.

— Чаму? — зьдзівіўся Патапенка.

— Бецалелю два былі непатрэбныя, а сакрэт ведаў толькі ён. І пасьля паўстаньня голема супраць улады стваральніка... А ўяўляеш, калі б іх было шмат? Яны б зьнішчылі ўсіх пражан і ўсю Прагу заадно.

Дубавец пільней угледзеўся ў дзьве згорбленыя сьпіны, што аддаляліся ў бок Флорэнца, канчаткова зьнікаючы ў ночы, дажджы і сваіх павялічаных памерах, і шматзначна сказаў:

— Бэцалель стварыў голема ў бяззорную ноч.

— Гэта ты да чаго? — не зразумеў Патапенка. — Што можа быць і не фальшыўка?

Дубавец задуменна змаўчаў.

## 01. На тэрасе

— Жанчыны і могілкі — усё, што па-сапраўднаму прыцягвала мяне ў гэтым жыцьці, — сказаў Есіп, пазіраючы кудысьці ўдалеч, па-над старымі каронамі Альшанскіх кладаў. — Бяз гэтага няма ні жыцьця, ні сьмерці.

«Колькі патасу! — падумаў Імбрык. — Так заўсёды бывае, калі кажуць пра ўсё і ні пра што».

Яны стаялі на тэрасе вялізнага срабрыстага будынку, штаб-кватэры амэрыканскага Радыё Салярыс у Празе. Было цёпла і ўтульна, як толькі й можа быць, калі ты апынаесься на Захадзе. Прынамсі, так гэта адчуваў Імбрык, ён любіў паездкі ў Літву ці Польшчу і яшчэ далей ад Беларусі, але сюды патрапіў упершыню і цяпер ніяк ня мог разабрацца ў сваіх зблытаных пачуцьцях.

Есіп згасіў цыгарэту ў перапоўненай попельцы-самасхоўцы і працягваў:

— Два мільёны магіл, цэлы акіян хвалюецца пад ветрам, і помнікі, нібы постаці, вынырваюць з пуціны то там, то там. — Раптам ён паказаў пальцам улева і ўніз, дзе за варотамі ў агароджы сярод чорных надгробкаў вылучаўся сьветла-шэры абэліск. — Вунь Кафка, гэта абавязковая праграма, недасьведчаныя прыносяць яму кветкі. Адразу відаць, што ён выйшаў за рамкі сваёй нацыі, бо тут габрэйскія могілкі і замест кветак прынята класьці каменьчыкі. Дзіўна, што служка, які выдае на ўваходзе кіпы, не тлумачыць гэта наведнікам. — Есіп кіўнуў за далягляд. — А там, за габрэйскімі могілкамі пачынаюцца іншыя. Там ляжаць расейскія белагвардзейцы, генэралы, зорка Мілянскай опэры Забэйда-Суміцкі і цэлых два беларускія прэзыдэнты. Праўда, на эміграцыі.

Паўз іх па тэрасе раз-пораз праходзілі самага рознага кшталту людзі, супрацоўнікі, зь якімі Імбрыку яшчэ толькі трэба будзе пазнаёміцца і пасябраваць. Яны зьнікалі за дзьвярыма буфэта, а ён ніяк ня мог скласьці ў адзін пазл Есіпавы словы, гэтую тэрасу і тое, з чым прыехаў сюды на працу зь

Менску. Унутраная нязручнасьць адчувалася ад таго, што гэта мусіў быць пазл ягонага ўласнага жыцьця.

Лагодны ветрык раз-пораз шамацеў каронамі дрэваў і помнікі на могілках, сапраўды, то зьяўляліся, то зьнікалі, нібы вынырнуўшы на імгненьне з хваляў.

— Радыё Салярыс — прыгожая назва, праўда? — усьміхнуўся Есіп. — Наша станцыя па сутнасьці нічым не адрозьніваецца ад той, якую калісьці апісаў Лем. Калідоры-калідоры, штучнае сьвятло, цалкам закрытая ад пабочных прастора і гэты разумны акіян магіл навокал, зь якога час ад часу паказваюцца відзежы нашага патаемнага. А таксама нашыя развагі, аналітыка. Магчыма, і нашы навіны таксама.

Як могуць паказвацца «відзежы аналітыкі і навінаў», Есіп і сам сабе ўяўляў цьмяна. Хоць пры патрэбе гатовы быў зараз жа расказаць пра адноснасьць усяго на сьвеце, а яшчэ прасьцей — пра фэйкі, што ўжо дакладна паходзілі не з рэальнасьці. Але кодэкс Радыё Салярыс не дапускаў фэйкаў і патрабаваў жорстка рэагаваць на іх. Зрэшты, Імбрык пра гэта і не пытаўся.

«Эпічна, нічога ня скажаш, — думаў ён тым часам. — Але і дзіўна чуць пра ўсё гэта. Нейкія няправільныя словы гаворацца тым знакамітым тэмбрам, які зь дзяцінства праз радыё заўсёды казаў толькі тое, што трэба, што ад яго чакалі, за што яго любілі і нават багамілі Імбрыкавы бацькі. — А тут... жанчыны і могілкі... І пра прэзыдэнтаў БНР — неяк негрунтоўна, мімаходзь, амаль

непаважліва — «цэлых два», яшчэ й з агаворкай — «праўда, на эміграцыі»».

Зьмейка дыму ад Есіпавай цыгарэты паляцела за далягляд. Міма сьпешна прайшоў дырэктар іхнае службы, кінуўшы на хаду: «Энджой, джэнтэльмэны». Гучна зарагатала арабская кампанія за дальнім сталом.

Есіп заўсёды маляваўся Імбрыку чалавекам-легендай. Тут складаліся ў адно і агульная любоў да Амэрыкі, і тое, што радыё гаварыла па-беларуску. Гэта быў вобраз інтэлектуала, рамантыка, беларускага адраджэнца, а пры тым змагара з дыктатурай. І калі маладому журналісту выпала прапанова прыехаць у Прагу, калі дырэктар знаёміў яго зь Есіпам, аддаючы таму пад апеку, у Імбрыка было адчуваньне, што ён цісьне руку герою. А тут... нейкія жанчыны і могілкі.

— Могілкі й ёсьць разумны акіян, пасярод якога стаіць наша касьмічная станцыя, — працягваў Есіп. — Калі хопіць фантазіі, ты не аднойчы ўхопіш тут вобразы тваіх нязбытных мрояў. А яшчэ тут да цябе будуць прыходзіць тыя, пра каго ты не расказваеш нікому, але хто не дае спакою тваму сумленьню. Усё як у Лема, нічога больш.

«Блін!»

Бацькі гадавалі Імбрыка сапраўдным патрыётам Беларусі. Дома гаварылі толькі па-беларуску, як і ўсё атачэньне іхных сяброў, а значыць, і іхных дзяцей. Патрыётам Імбрык і вырас. Спачатку крыху муляла імя і школьныя дражнілкі, але пасьля ён стаў ганарыцца тым, што ён ня Вася і ня Пеця, а менавіта Імбрык. Бо важная ня форма імені, яна ўсяго толькі форма, а зьмест, напаўненьне.

Далейшыя сваякі не прынялі імя Імбрык і называлі яго Андрушам.

У маленстве яны пыталіся ў яго: «Андруша, кім ты хочаш стаць?» — «Вялікім», — адказваў чатырохгадовы Імбрык. — «Кім вялікім?»

Кім вялікім, ня мела значэньня, бо гэта быў выбар жыцьця, а не прафэсіі. «Проста вялікім», — адказваў ён.

Пасьля, калі Імбрык вырас і пачаў моцна перажываць за родную краіну, ён думаў ужо ня толькі пра сябе, а пра тое, што Беларусі патрэбныя вялікія людзі, сапраўдныя зоркі, прычым каб такімі іх прызнавалі ня толькі ў Беларусі, а ва ўсім сьвеце. І намалявацца яны мусілі не ў гісторыі, а сярод жывых.

Імбрык схамянуўся, калі пабачыў, што Есіп глядзіць яму проста ў вочы, і зразумеў, што ён чытае ягоныя думкі.

— Тут гульня словаў, — сказаў Есіп. — Памятаеш, Караткевіч мусіў удакладняць: «Вялікі ня ў сэнсе «великий», а ў сэнсе «большой»». І ўся рэч у тым, што меў на ўвазе твой маленькі Андруша: ці ён хоча стаць «большим», значыць, дарослым, высокім, разумным, ці ўсё ж такі «великим».

— На жаль, вызначэньне мовы таго даўняга дыялёгу — беларуская ці расейская — тут не дапаможа. Гэта была звычайная трасянка, — уздыхнуў Імбрык.

Ужо стаўшы дарослым, у роздумах сам сабе ён ня мог даць рады. Вялікі хтосьці (касманаўт, пісьменьнік, архітэктар) на ягоную мару выглядаў драбнавата. Яму хацелася быць проста вялікім. Як Вітаўт. Вялікі Імбрык. Але ён не наважваўся нікому раскрыць гэтую таямніцу.

— Расейцам проста, — працягваў Есіп, — «великий», значыць, велічны, геніяльны, значны. Праўда, гэта максымальная адзнака, і калі, скажам, пісьменьнік ці твор не дацягвае да максымуму, кажуць: «большой писатель», «крупное произведение». Першы ў нас усё адно будзе «вялікім», а са словам «буйны» ўвогуле праблема, бо можна выпадкова паставіць націск не туды, куды трэба, і атрымаецца шалёны.

«Гэта ён так жартуе...» — падтрымліваў Імбрык у сабе агеньчык чагосьці, што магло ці мусіла вырасьці ў адмоўнае стаўленьне да старэйшага калегі. Мусіла ці ня мусіла, — пакуль было незразумела.

— Проста вялікімі бываюць багі і тыя, каго багомяць, — разважаў Есіп. — Што да Вітаўта, дык ён ня проста вялікі, а вялікі князь, хоць мы і можам глытаць апошняе слова, цешачы свой гіпэртрафаваны патрыятызм. Проста вялікі, напрыклад, Сталін, якога такім прызнае большасьць расейцаў. Але ён жа і вялікі забойца, нянавісьць да якога нічым ня меншая, чым любоў да вялікага пераможцы. Для адных бог, для другіх д'ябал. Перастане быць богам, перастане быць вялікім. Як здарылася з Гітлерам. Проста д'ябла ніхто не назаве проста вялікім.

«Гіпэртрафаваны патрыятызм», — вылавіў Імбрык зь Есіпавых развагаў. Пачынала намацвацца пэўная база для голай напачатку, нічым асабліва не падмацаванай непрыязі да мэтра. Лёгкі цень гэтай непрыязі, адразу нават не зразумела было, чаго гэта цень, толькі цень, цяпер набываў цьмяныя абрысы.

Есіп закурыў чарговую цыгарэту. Помнікі працягвалі вынырваць у лістоце кладаў. Міма ізноў

сьпешна прайшоў дырэктар іхнае службы: «Прасякайцеся, джэнтэльмэны». Наблізіўся і павітаўся зь імі калега з татарскай службы. «Я навучу цябе курыць у самалёце, — сьмеючыся, сказаў ён Есіпу. — Зачыняесься ў туалеце, робіш спуск і адначасова зацяжку над унітазам. Ш-ш-шух! — выдыхаеш проста ў гарлавіну і вакуўм уцягвае ўвесь дым. І так кожны раз: спуск — зацяжка, спуск — зацяжка...»

— Ягоны дом у Сыктыўкары, доўга ляцець, — сказаў Есіп, калі татарын перайшоў да іншай кампаніі.

Імбрык ненавідзеў імя «Андруша». Асабліва пасьля таго, як у Іменьніку Дубаўца прачытаў наступнае:

«АНДРЭЙ — чалавек лёгкі. Ён лёгка працуе з паперамі, лёгка піша вершы, лёгка кіруе фірмай і дачыняецца з партнэрамі. Ён лёгка выбудоўвае сваю лінію паводзінаў, якая часта аказваецца даволі заблытанай, і тады разабрацца ў ёй Андрэю цяжка».

Ні за што на сьвеце Імбрыку не хацелася з гэтым пагаджацца, бо з такой характарыстыкай стаць вялікім было немагчыма. Хіба што вялікім актoрам, лёсам якога будуць апекавацца вялікія рэжысэры. Зрэшты, і не ягонае гэта імя — Андруша.

— А табе якія жанчыны больш падабаюцца? — Есіп тым часам павярнуўся тварам да тэрасы і аглядаў яе. — Натуральна, пасьля беларусак. Ты яшчэ ня вырашыў? — Ён мімалётна зіркаў у бок дзьвюх маладых жанчын, якія за столікам млявымі рухамі даядалі свае пірожкі з кавай. — Тады запомні, самыя прыгожыя на сьвеце жанчыны — косаўскія альбанкі. Прычым цёмную завуць Альбана,

гэта значыць, белая, а сьветлую — Гардана. Па ідэі, павінна значыць — чорная. Але ня так важнае імя, важны зьмест, напаўненьне.

«Угу».

Есіп нібы падглядаў за рэакцыяй Імбрыка, а той адчуў сябе канчаткова разгубленым. На тле разгубленасьці ягоны ўнутраны пратэст нарастаў. Як бы разгаралася тое «нешта», тая аблачына непрыязі налівалася сьвінцовым колерам. Дзякуючы Есіпу карціна сьвету мянялася са звыклай і прадказальнай на нейкую абсурдысцкую і як бы не зусім «нашу». Дакладней, зусім ня нашу. Косаўскія альбанкі паставілі Імбрыка ў тупік. Але й гэта быў не канец.

— Я бачыў гэтых дам на нудысцкім пляжы, — распавядаў Есіп. — Людзей з Радыё часам можна сустрэць на Льготцы. Гэта такое лясное возера, кілямэтраў сорак ад Прагі. Мне яно ня моцна падабаецца. Часам дырэктар бярэ мяне з сабою за кампанію паплаваць. Я далёка не заплываю, а ён як пайшоў, так і пайшоў, на гадзіну і болей. Мне шмат ня трэба, швэндаюся сабе, куру, разглядаюся, пакуль ён ня вернецца. Нуднавата, адным словам. Дый які зь мяне нудыст... А яны нічога сабе.

«Чаму я павінен пра гэта слухаць і ведаць? — з усіх сілаў стараўся Імбрык не паказваць зьнешне свайго абурэньня. — І хіба павінен казаць такія рэчы змагар, асьветнік, хрысьціянін урэшце? Хіба для таго, каб высьветліць, ці свой чалавек жанчына, яе трэба абавязкова пабачыць голай?»

Імбрык думаў пра Насту, зь якой яны разам скончылі падпольны ліцэй у Менску і якая цяпер

